# наша свабода

№14 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

11 КРАСАВІКА 2000 года АЎТОРАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ





# Міліцыя просіць прабачэння за «перагіб»

## Але толькі перад журналістамі

Алесь ПАЎЛОВІЧ

**Мінулая пятніца стала для кіраўніцтва ўсёй беларускай і асобна мінскай гарадской міліцыі днём пакаяння. Галовы попелам у гэты дзень пасыпалі міністр унутраных справаў Юрый Сівакоў і выконваючы абавязкі кіраўніка сталічнай міліцыі Іосіф Міхалковіч, а дапамагалі ім у гэтай цяжкай місіі намеснікі ды прэс-сакратары. Дзеянне адбывалася адначасова на двух пляцоўках – у апартаментах стадыёна «Дынама» і ў офісе гарадской міліцыі. І там, і там, як на свята, былі накрытыя сталы, хаця незразумела было, што святкавалася. Хіба што факт паслухмянасці міліцыі загадам зверху. Але ці сведчыць гэта пра яе законапаслухмянасць?**

Справа ў тым, што і генерал Сівакоў, і палкоўнік Міхалковіч выбачаліся толькі перад журналістамі. Гаворку пра тое, што міліцыя незаконна хапала на вуліцах грамадзянаў, заводзілі самі журналісты. Сівакоў выбачаўся за сваіх падначаленых, якія на Дзень Волі, аказваецца, «нервавалі» і таму адносна журналістаў перагнулі палку. Міхалковіч выбачаўся за салдатаў унутраных войскаў, якія, зразумела, гарадской уладзе не падпарадкаваныя, і таму «адбылося тое, што адбылося». Журналісты спрабавалі шукаць адказных у сферах вышэйшых, але міліцэйскія кіраўнікі з дапамогай прэс-сакратароў старанна абыходзілі слізкую тэму «галоўнага ініцыятара канфлікту». У выніку атрымалася, што ва ўсім вінаваты адзін « адмарожаны» падпалкоўнік у крапавым берэце, які і пачаў паляванне на журналістаў. З ім ужо разабраліся. Хацелі нават звольніць з органаў, але ўлічылі стан здароўя (што такі слабанервны) і перавялі ў грамадзянскую абарону (там усё ж спакайней і бліжэй да народа). Праўда, чамусьці прозвішча пакаранага «грамілы» журналістам не назвалі – ні на сустрэчы з Сіваковым, ні ў гарадской міліцыі такіх дэталяў проста не памяталі.

Увогуле, калі потым журналісты параўналі, як праходзіла сустрэча на «Дынама» з тым, што адбывалася ў гарадской міліцыі, знайшлося шмат агульнага. І ў сцэнарах, і ў прамовах. Міністр Сівакоў пабыў з журналістамі 5-10 хвілінаў і сышоў, спаслаўшыся на справы. А перад сыходам нагадаў журналістам НТВ, ОРТ і РТР, што 25-га яны знаходзіліся на працы (быццам Аляксандр Калпакоў, Дзмітрый Наважылаў ці Алена Лукашэвіч калісьці сцвярджалі адваротнае), і таму іхнае затрыманне і пашкоджанне тэлетэхнікі безумоўна ёсць парушэнне закона аб друку, за што ён выбачаецца. Міністр паўтарыў, што ўсе страты на рамонт здымачнай апаратуры будуць кампенсаваныя. Згадванне закона аб друку і прабачэнні за яго парушэнне пачулі журналісты і ад Іосіфа Міхалковіча ў гарадской міліцыі. Міхалковіч таксама да канца праграмы не дацягнуў. Маўляў, справаў шмат, а генерал Тарлецкі, шэф гарадской міліцыі, у адпачынку. Пасля сыходу начальнікаў размовы з журналістамі працягваліся ў яшчэ больш нефармальнай абстаноўцы – на «Дынама» тэлевізіёншчыкаў нават частавалі выдатнай парылкай. І, канешне, размовай па душах, падчас якой лягчэй наводзіць масты і аднаўляць давер. Паміж беларускай міліцыяй і беларускімі журналістамі гэты давер, магчыма, хутка і будзе адноўлены, а вось як быць з сотнямі незаконна затрыманых на Дзень Волі мінчукоў і гасцей сталіцы? Хто і калі ў іх будзе прасіць прабачэння? ■




# Президент-2 приземлится в Минске

Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ

**Второй президент Российской Федерации должен появиться в Минске. Свои первые визиты в апреле в качестве президента Путин совершит также и в Киев. Столицу Беларуси он уже посещал. Но в качестве главы правительства, которым, кстати, он пока и остается.**

То, что Владимир Путин стал преемником Ельцина, оказалось полной неожиданностью для многих. В том числе и для белорусских союзников. Как и результаты последних выборов в российскую Госдуму, появление нового хозяина Кремля в правящих кругах Беларуси воспринято с напряжением. По мнению экспертов, на амбициозных планах председателя Высшего государственного совета Союза Беларуси и России Александра Лукашенко был поставлен крест. Его мечтам об исторической миссии собирателя славянских земель уже не суждено сбыться. Очевидно, что новое руководство России интенсифицирует свою роль на постсоветском пространстве. Но не на декларациях об общих исторических славянских корнях и советском прошлом, а на жестком прагматизме в отстаивании своих собственных государственных интересов. В отношении братской Беларуси такой подход уже четко проявляется в таких областях, как оборона и интересы российского нефтегазового комплекса. В этой связи весьма примечательно заявление госсекретаря Союза Беларуси и России Павла Бородина. Он назвал план создания единого союзного государства весьма выгодным коммерческим проектом. Олицетворять его будет, к примеру, программа «Союзный телевизор». По аналогии можно вспомнить, что в свое время «Клуб кинопутешествий» олицетворял для советских людей свободу на передвижения. Пока же гражданам двух союзных стран по телевизору обещают посадить П. Бородина в швейцарскую тюрьму.

Реальная же основа выгоды «коммерческого проекта» лежит в геостратегическом расположении Беларуси. Со всеми, столь жизненно важными для России транзитными путями. Судя по результатам, а вернее их отсутствию, последнего визита в Минск главы компании «Славнефть» Михаила Гуцериева, руководитель Беларуси иногда проявляет строптивость в отношении планов экспансии российского капитала. Но куда большую озабоченность Москвы вызывают проявления самостоятельности Минска на мировом рынке вооружений. По некоторым сведениям, зачастую в обход интересов своих российских союзников, различного рода вооружения из Беларуси попадают в регионы потенциально взрывоопасные. А то и в те регионы, где уже происходят вооруженные конфликты. В частных беседах чиновники упоминают даже Чечню. ▶

*Окончание на стр.3*

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **Ірландскі няўрадавы фонд «Дзеці Чарнобыля» накіраваў больш за 300 тонаў гуманітарнай дапамогі дзецям Беларусі і Расіі, што пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС.** Пра гэта паведаміла «Радио России». Гэты фонд сабраў 2,5 мільёнаў долараў і на гэтыя грошы набыў медыкаменты, вопратку, харчаванне і 16 машынаў «Хуткай дапамогі». 22 красавіка каштоўны груз прыбудзе ў шпіталі і дзіцячыя дамы Беларусі, а таксама Бранскай вобласці Расіі.

■ **Дзве тысячы жыхароў Брэсцкай вобласці, што апынуліся за рысай беднасці, атрымаюць дапамогу ў рамках акцыі «Надзвычайны заклік».** Акцыя праводзіцца Чырвоным Крыжам. На працягу трох месяцаў — з красавіка па чэрвень — дзве тысячы жыхароў вобласці атрымаюць харчовыя пасылкі, а каля сотні чалавек, якія не маюць пастаяннай фінансавай крыніцы, — бясплатнае харчаванне. Хворыя, што знаходзяцца пад патранажам Чырвонага Крыжа і цэнтры медыка-сацыяльнай дапамогі і пункты санітарнай апрацоўкі атрымаюць гігіенічныя наборы, а дзецям з маламаёмных сем'яў дастануцца камплекты пісьмовых прыладаў, паведамляе агенцтва БелаПАН.

■ **Пракуратура Ленінскага раёна Гродна ўзбудзіла крымінальную справу ў дачыненні да выкладчыка М. з гродзенскага філіяла Беларускага камерцыйнага універсітэта кіравання.** Як паведамляе агенцтва БелаПАН, 6 красавіка выкладчык быў затрыманы на месцы злачынства ў аўдыторыі гэтага ВНУ пры вымагальніцтве хабару ў суме 150 долараў ЗША ад групы студэнтаў за здачу залікаў. Цяпер ён арыштаваны і знаходзіцца пад вартай.

■ **Прэзідэнт Паўднёвай Карэі Кім Дэ Джун і лідэр Паўночнай Карэі Кім Чэн Ір правядуць з 12 па 14 чэрвеня гэтага года сустрэчу ў Пхеньяне, паведамляе CNN, спасылаючыся на прадстаўнікоў паўднёвакарэйскага боку.** На сённяшні дзень дзве дзяржавы фармальна знаходзяцца ў стане вайны – што не замінае, аднак, Паўднёвай Карэі дапамагаць сваёй паўночнай суседцы харчаваннем і вопраткай. Чакаецца, што падчас сустрэчы будуць абмяркоўвацца праблемы эканамічнай дапамогі і пытанні ўз'яднання сем'яў, якія былі падзеленыя паўстагоддзя таму з-за канфлікту паміж дзвюма краінамі.

## НАДВОР'Е




Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 935

## ЗША мяняе пасла ў Мінску

Рыгор БУЯН

Прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі Біл Клінтан назваў пераемніка Дэніэла Спекхарда, які гэтым летам адклікаецца з Мінска, на пасадзе пасла ЗША на Беларусі. Гэта 56-гадовы Майкл Козак, які да нядаўняга часу кіраваў амерыканскім пасольствам у Гаване. Відаць, што амерыканцы вырашылі даручыць кіраванне дыпламатычнай місіяй на Беларусі чалавеку, які мае вопыт працы ў экстрэмальных умовах – адносіны Кубы Фідэля Кастра з ЗША носяць менавіта такі характар.

Майкл Козак нарадзіўся у 1946 годзе ў Пасадэне, штат Каліфорнія. Пасля заканчэння Каліфарнійскага універсітэта ў Берклі атрымаў дыплом бакалаўра (1968 год) і доктара права (1971 год). Дыпламатычную кар'еру ён пачаў у Дзяржаўным дэпартаменце з 1971 года, дзе займаўся пытаннямі міжамерыканскіх адносінаў, у 1977 годзе быў удзельнікам перамоваў па дамове аб Панамскім канале, у 1984 годзе ўзначальваў дэлегацыю ЗША на перамовах па адпраўцы з Кубы палітычных бежанцаў. З 1997 года кіраваў дыпламатычным прадстаўніцтвам ЗША на Кубе. Жанаты, гадуе двух сыноў. ■

## Разбітыя шыбы – для «палітычных»

Вольга АНЦЫПОВІЧ

Адбыў 10 дзён турэмнага зняволяння намеснік старшыні БНФ «Адраджэньне» Вячаслаў Сіўчык. Ён быў затрыманы праз тры дні пасля правядзення ў Мінску Дня Волі і абвінавачаны ў арганізацыі і актыўным удзеле ў несанкцыяваным шэсці. Пра асаблівасці сваёй «адсідкі» пасля выхаду Сіўчык распавёў карэспандэнту НАШАЙ СВАБОДЫ.

— На працягу 10 дзён мяне ўвесь час пераводзілі ў іншыя камеры, я іх змяніў, здаецца, пяць. Як вядома, гэта робіцца для таго, каб чалавеку цяжэй было адаптавацца да турэмных умоваў. Пра такія класічныя рэчы, як стыль стасункаў міліцыянераў са зняволенымі, казаць нават не прыходзіцца. Адкрыццём для мяне стала іншае. За два дні да сканчэння майго сроку мяне перавялі ў камеру, дзе ў шыбе была вялізарная дзірка. Яе немагчыма было заткнуць ні цэлафанам, ні нейкімі падручнымі рэчамі. Улічваючы надвор'е, якое ў апошнія дні стаяла на вуліцы, гэта стала даволі вялікай праблемай. Пастаянны холад, скразняк. Здзіўляюся, як там не захварэла ўся камера. Калідорны пазней сказаў мне, што ў камеры з такімі дзіркамі абавязкова саджаюць усіх «палітычных», якія трапляюць у ізалятар на Акрэсціна. Цікава, але гэтая інфармацыя не дайшла ні ў адну праваабарончую арганізацыю.

— *Як думаеце, чаму амаль усіх, хто ішоў па справе 25 сакавіка, суды апраўдалі, а «суткі» атрымалі толькі Вы?*

— Трэба было пасадзіць хоць аднаго больш-менш вядомага ў грамадскім руху чалавека, каб прадэманстраваць астатнім, што ў наступны раз такое ўжо адбудзецца з усімі. Трапіўся я, вось і пасадзілі. Іншага тлумачэння ў мяне няма. ■

## Дрэва для свабоды

Вольга АНЦЫПОВІЧ

Прадстаўнікамі Маладога Фронту і Грамадзянскага Форуму 7 красавіка на вуліцы Пуліхава было пасаджанае дрэва «Для свабоды і дэмакратыі ў Беларусі». Як ужо паведамляла НАША СВАБОДА, аналагічная акцыя была праведзеная напачатку красавіка ў Празе, куды маладыя людзі з вышэйназваных арганізацыяў ездзілі з вучэбным візітам.

Месца пасадкі дрэва, па словах арганізатараў мерапрыемства, было выбранае невыпадкова, бо менавіта тут падчас Маршу Свабоды-1 адбываліся найбольш жорсткія сутыкненні дэманстрантаў з міліцыяй. «Гэтыя сутыкненні не былі трывіяльным хуліганствам, гэта было змаганне за свабоду, жорстка падаўленае міліцыянтамі». У знак памяці пра тыя падзеі дрэва свабоды было пасаджанае менавіта тут», – падкрэсліў адзін з ініцыятараў пасадкі дрэва «Для свабоды і дэмакратыі ў Беларусі». ■

## Галодны статак загінуў на пашы

Надзея СВЯТЛІЧНАЯ

Ураган у лютым стаў прычынай гібелі больш як 50 галоў буйной рагатай жывёлы ў Камянецкім і Ганцавіцкім раёнах. У штабе грамадзянскай абароны Брэсцкай вобласці зафіксаваныя звесткі, што ў 13 сельскіх раёнах стыхія пашкодзіла 181 будынак і 2 разбурыла. Вецер, хуткасць якога дасягала 23 метры ў секунду, пазрываў з дахаў 12.530 лістоў шыферу, 2.750 кв. метраў руберойду, разбіў 1.180 кв. метраў шкла.

85 кароў у калгасе «Савецкі» Пружанскага раёна, як сведчыць рапарт штаба ГА, патанулі ў меліярацыйным канале. Галодныя і слабыя, яны паддаліся ветру, былі сагнаныя ім да абрывістых берагоў канала, дзе і знайшлі пагібель у сцюдзёнай вадзе. Калі б жывёла стаяла ў хлявах, то, магчыма, нічога б не здарылася, але кароў выганяюць на пашу, бо іх няма чым карміць. ■

ФІНАНСЫ

## Хэпі энд не прадугледжаны

Канстанцін СКУРАТОВІЧ

**Сваім чарговым указам Лукашэнка фактычна забараніў крэдытаванне калгасаў і саўгасаў і значнай часткі прамысловых прадпрыемстваў.**

У гэтым дакуменце, які падпісаны 3 красавіка, прадпісваецца спаганяць са службовых асобаў банка, упаўнаважаных прымаць рашэнні аб выдачы крэдытаў, штраф у памеры ад 150 да 500 мінімальных зарплатаў (ад 220 тысяч да 1 мільёна 100 тысяч «новых» рублёў) за выдачу крэдытаў займальніку, які мае пратэрмінаваную запазычанасць па раней выдадзеных яму крэдытах. Такія ж парушэнні (калі яны будуць зробленыя два разы і болей за год) для кіраўніка банка могуць скончыцца стратай пасады.

На першы погляд, усё лагічна: калі пазычаць грошы таму, хто іх не аддае, то сам банк можа збанкруціцца. Таму амаль ва ўсім свеце няма такога банка, які б крэдытаваў банкрутаў. Але ж там банкі нясуць адказнасць за марнатраўства сродкаў перш-наперш перад кліентамі і плацяць кампенсацыі ўласнымі грашыма. А па-другое, дзяржава не ўмешваецца ў дзейнасць банкаў да тае пары, пакуль яны не парушаюць заканадаўства.

Гэты пералік можна доўжыць, але галоўнае ў тым, што нашы камерцыйныя банкі фактычна выцесненыя дзяржавай з прававога поля. Бо з самага пачатку свайго панавання Лукашэнка разглядае іх як невычэрпную крыніцу сродкаў для нашых занядбалых прадпрыемстваў. Яшчэ ў 1995 годзе на адной з высокіх нарадаў ён заявіў прадстаўнікам мясцовых уладаў: у вас няма грошай на выплату заробкаў калгаснікам? Ідзіце і вазьміце іх у банках!

Вось так, па-бальшавіцку. З гэтай нагоды ўся банкаўская справа ў краіне прыйшла ў занапад, а стан у эканоміцы не выправіўся. Бо, прынамсі, сёння 40 працэнтаў усіх прадпрыемстваў стратныя (у Магілёўскай вобласці – ножнае другое), на кожны рубель пратэрмінаванай крэдытнай запазычанасці прыпадае ўсяго 28 капеек уласных сродкаў (у калгасах увогуле 10 капеек). Пратэрмінаваная крэдыторская запазычанасць – гэта і ёсць у большасці запазычанасць прадпрыемстваў перад установамі банкаў.

І калі гэтым 40 працэнтам стратных прадпрыемстваў (яны па сваіх абавязках не разлічацца ніколі) не даць крэдытаў, то вытворчасць на іх спыніцца. А калі ўлічваць, што яны маюць сваё месца ў падзеле працы, то абваліцца і ўся эканоміка.

Яно можа было б і лепей, бо, як лічыў яшчэ Ніцшэ, шкадаваць слабага – доўжыць яго агонію. Што нагумана. Але ж і ўсё, што выходзіць за подпісам Лукашэнкі, гэты дакумент мае падвойнае дно. Таму ў крэдытах будуць адмаўляць не ўсім займальнікам, а толькі тым, хто нейкім чынам угнявіў яснавяльможнага пана. Інакш кажучы, бясконцая беларуская меладрама на тэму «Вашы і нашы» атрымае працяг.

На жаль, ад мыльных операў яна істотна адрозніваецца: хэпі энд у ёй не прадугледжаны. ■

## Высновы на сойме

Алесь ШМЯЛЁЎ

У суботу адбыўся чарговы Сойм БНФ, на якім былі абмеркаваныя пытанні рэгіянальнай палітыкі партыі і руху, а таксама ход «Вясны-2000» і падрыхтоўка да апошняй акцыі з гэтага шэрагу – «Чарнобыльскага Шляху». Таксама былі зробленыя высновы аднасна акцыі «Дзень Волі», якая мусіла прайсці і ў рэгіёнах. Па словах намесніка старшыні БНФ Віктара Івашкевіча, дзейсныямі рэгіянальнымі структурамі БНФ можна лічыць тыя, якія правялі ў сваіх гарадах хаця б гучныя пікеты. Такіх налічылі дваццаць. «А астатнія, скажу я вам, тыя, хто не правёў ніякіх мерапрыемстваў, – вас проста няма!» ■

## Няма чым плаціць

Сяргей МАКСІМОВІЧ

Гродзенскія гарадскія ўлады б'юць у званы. Цяжка стала выплачваць бюджэтнікам заробкі. Гарадская скарбонка не напаўняецца нават напалову.

За першыя два месяцы года ў гарадскі бюджэт павінна было паступіць амаль 20 мільярдаў рублёў у выглядзе падаткаў. А паступіла менш за 3 мільярды, гэта меней за 15 працэнтаў. Прычыны – зменшылася колькасць выробленай прадукцыі, стала яшчэ цяжэй яе прадаць. Некаторыя прадпрыемствы пры гэтым не разлічыліся з падаткамі за папярэдні тэрмін. Гарадскія ўлады прынялі пастанову ў традыцыйнай камандна-адміністратыўнай сістэме, у якой загадана тэрмінова «вывесці прадпрыемствы з крызіснай сітуацыі». ■

## «Варшаўскі мост» падаражэў

Станіслаў ЛОМ

Пад шумок «смаленскай ініцыятывы», калі Расія зноў абкладвае праезджы транспарт падаткамі і зборамі, Брэсцкі гарвыканкам з 10 красавіка ўвёў дадатковую плату за санітарныя і дыспетчарскія паслугі на кантрольна-прапускным пункце пры перасячэнні граніцы Рэспублікі Беларусь з Рэспублікай Польшча. Рэзідэнты РБ ужо ў мінулую нядзелю плацілі за аўтобус 7 мінімальных зарплат, за мікрааўтобус — 3, за легкавік — 1, матацыкл, мапед — 0,2 мінімалкі. Упершыню ўведзены збор у памеры адной мінімальнай зарплаты з аўтобусаў міжнародных маршрутаў, зацверджаных адпаведнымі органамі Рэспублікі Беларусь і Рэспублікі Польшча.

Нерэзідэнты Рэспублікі Беларусь разлічваюцца свабодна канверсаванай валютай. Аўтобус — 50 долараў ( ці 90 дойчмарак); мікрааўтобус — 20 долараў ( ці 35 дойчмарак); легкавік — 10 долараў ( ці 20 дойчмарак). На аўтобусы міжнародных маршрутаў, зацверджаных адпаведнымі органамі Рэспублікі Беларусь і Рэспублікі Польшча , але ўладальнікамі якіх з'яўляюцца нерэзідэнты РБ, аплата складае 5 долараў ( ці 10 дойчмарак).

Ад аплаты санітарных і дыспетчарскіх паслугаў вызваленыя асобы з дыпламатычным статусам; афіцыйныя дэлегацыі з Беларусі і замежныя, якія былі запрошаныя афіцыйна; транспарт з грузам гуманітарнай дапамогі; групы дзяцей, якія выязджаюць на аздараўленне, і да т. п.

Як патлумачылі ў Брэсцкім гарвыканкаме, новы закон «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 2000 год» дае права ўводзіць мясцовыя падаткі. ■



СПОРТ

## Беларусь – ПАР, 4:1!

Аляксей БАРСКІ

З абсалютнай перавагай нашых тэнісістаў прайшоў у мінулыя выхадныя афіцыйны матч 1-ай групы Еўра-афрыканскай зоны Кубка Дэвіса, у якім беларуская зборная прымала тэнісістаў з Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі. Матч, які складаўся з пяці асобных сустрэчаў паміж рознымі тэнісістамі, скончыўся з агульным лікам 4:1 на карысць Беларусі. Абодва нашыя тэнісісты, якія гулялі ў адзіночных паядынках, Уладзімір Валчкоў і Максім Мірны, па дзве свае сустрэчы выйгралі, а вось у пары, на жаль, беларусы пацярпелі паразу.

Пераможца гэтага матчу атрымаў магчымасць згуляць матч з адной з камандаў-наўдачніцаў элітнай лігі Кубка Дэвіса за права прыняць удзел у гульнях у кампаніі мацнейшых на наступны год. ■

АКЦЫЯ

## Заяўка на «Чарнобыльскі Шлях» – пададзеная

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Восемдзесят сем чалавек падпісалі і падалі ўчора ў Мінгарвыканкам заяўку на правядзенне акцыі «Чарнобыльскі Шлях» з серыі «Вясна-2000». Згодна з ёй, 26 красавіка да 80 тысяч чалавек павінны сабрацца на Сталічнай плошчы Якуба Коласа і адтуль рушыць на пляц Незалежнасці, дзе з 19:30 да 21:00 мусіць прайсці мітынг.

На прэс-канферэнцыі з гэтай нагоды старшыня БНФ Вінцук Вячорка заявіў, што «Чарнобыльскі Шлях» з'яўляецца традыцыйнай акцыяй беларускай апазіцыі і будзе праведзены пры любым адказе з Мінгарвыканкама. Па словах сябра аргкамітэта Хартыі'97 Людмілы Грязновай, калі не будзе чарговых правакацыяў з боку ўладаў, акцыя стане гэткай жа мірнай, як і, прыкладам, «Марш Свабоды-2» 15 сакавіка гэтага года.

Як паведамілі старшыня дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля» Генадзь Грушавы, у шэсці і мітынгу прымуць удзел больш за сто прадстаўнікоў міжнародных гуманітарных арганізацыяў. ■

## «Прэсбол» гульню спыняе

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Адазваць усе свае іскі да Беларускай федэрацыі футбола, старшыні БФФ Рыгора Фёдарава і газеты «Усё аб футболе» вырашылі на калектыўным сходзе журналісты буйнейшай незалежнай спартыўнай газеты Беларусі «Прэсбол. ТСЖ». Згодна з надрукаваным у «Прэсболе» інфармацыяй, рэдакцыя газеты вырашыла больш не пэцкаць свой твар удзелам у розных судовых разбіральніцтвах, а ўдзяляць больш увагі непасрэдна працы. Такім чынам, нягледзячы на паразу «Прэсбола» ў першым разбіральніцтве, дзе з газеты спагналі 1,2 мільёна новых рублёў, журналісты вырашылі не «помсціць» Фёдараву і БФФ і знайшлі ў сабе сілы спыніць гэтую небяспечную «гульню», якая мела перспектыву цягнуцца вечна. ■

## Рэспубліканскі сход абмяркуе пытанне заробкаў

Рыгор БУЯН

20 красавіка Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі плануе правесці рэспубліканскі сход прафсаюзных арганізацыяў і працоўных калектываў, каб абмеркаваць надзвычайную сітуацыю ў сферы выплатаў заработнай платы. Гэткае рашэнне прынятае кіраўніцтвам ФПБ на апошнім паседжанні Савета.

Сітуацыя, што склалася ў сферы выплаты заробкаў, а калі дакладней, яе нявыплаты і ўсеагульнага збяднення беларусаў, турбуе ўсіх і кожнага. Нават «самая дакладная» з навук – афіцыйная статыстыка — прызнае, што Беларусь ператвараецца ў рэзервацыю для жабракоў. Незадавальнене ўзроўнем аплаты працы выказвае больш за 75% працоўных. Каля 47% беларусаў ужо даўно апынуліся за мяжой беднасці, прычым больш за мільён чалавек гэтага сацыяльнага слоя прадстаўляюць наёмныя работнікі, якія працуюць на пастаяннай аснове. Надзвычайныя тэмпы росту беднасці назіраюцца ў сельскай гаспадарцы, сацыяльнай сферы, адукацыі, ахове здароўя, культуры, гандлі і спажывецкай кааперацыі, бытавым абслугоўванні. ■

## Усебеларускі з'езд прызначаны на травень

Рыгор БУЯН

**Травень гэтага года называецца як плануемы час правядзення Усебеларускага з'езда. Пра гэта паведамляе сакратарыят форуму.**

З ініцыятывай Усебеларускага з'езда яшчэ ў лютым выступіла вялікая група дзеячаў культуры, грамадскіх дзеячаў, навукоўцаў.

Аргкамітэт распаўсюдзіў інфармацыю, дзе тлумачыць, якія мэты Усебеларускі з'езд ставіць перад сабою. Згодна з гэтай інфармацыяй, з'езд «мусіць стаць механізмам шырокага і непадкантрольнага выказвання грамадскай думкі па пытанні аб беларускай незалежнасці». Усебеларускі з'езд будзе мець агульнанацыянальны маштаб: «на ім будуць прадстаўленыя ўсе тыя сілы, для якіх неабыякавы лёс краіны». Менавіта таму да 14 красавіка ўсе прыхільныя сілы – партыі, грамадскія арганізацыі, прафсаюзы – павінны зарэгістравацца ў сакратарыяце. Па выніках рэгістрацыі будуць вызначацца квоты прадстаўніцтва і прымацца рэгламент.

Сёлетні з'езд мусіць стаць пераемнікам Усебеларускага з'езда 1917 года, які паклаў пачатак беларускай дзяржаўнасці. Цяпер перад Беларуссю стаяць тыя ж самыя праблемы, што і стагоддзе таму, – захаваць незалежнасць альбо знікнуць як самастойная краіна.

Папярэднім тэрмінам Усебеларускага з'езда называецца травень. Але важнасць праблемы вымагае найхутчэйшай падрыхтоўкі з'езда. Таму з'езд можа прайсці і раней. ■

## «Не! І яшчэ раз не!»

Рыгор БУЯН



7 красавіка А.Лукашэнка правёў традыцыйную рэспубліканскую нараду кіраўнікоў калгасаў, саўгасаў і чыnavenства сярэдняга звяна. Перад імі ён заявіў, што не збіраецца рэфармаваць калгасы і саўгасы, што гэта жаданне Захаду дзеля падрыву сельскай гаспадаркі. «Ім быў патрэбны наш рынак, яны хацелі зламаць нашую сельскую гаспадарку, якая працавала не горш за заходнюю. Не, і яшчэ раз не! Буйная таварная вытворчасць застаецца і застанецца, я думаю, назаўсёды, асноваю нашае сельскае гаспадаркі». «У цяжкія моманты ніхто нічога не ламае і не рэфармуе», – дадаў А.Лукашэнка. Ён, відаць, забыўся, што па новым Грамадзянскім кодэксе, падпісаным ім жа самім, які ўступае ў сілу з 1 ліпеня, да гэтага дня калгасы і саўгасы павінны трансфармавацца ў іншыя формы гаспадарання, у адваротным выпадку іх чакае ліквідацыя ў судовым парадку.

Кіраўнік дзяржавы абвінавачў навукоўцаў-аграрыяў у няздольнасці прапанаваць выхад з крызіснай сітуацыі, у якой апынулася сельская гаспадарка. «У розных галовах блукае ідэя рэфармаваць, але ніхто не сказаў, як рэфармаваць і што нам гэта дасць», – заявіў А.Лукашэнка. Калі яму верыць, то праца айчыннай сельскай гаспадаркі залежыць ад належнай падрыхтоўкі спецыялістаў і персанальнай адказнасці кіраўнікоў гаспадарак, але ніяк не ад формы ўласнасці. Што праўда, то праўда: трэба ўсіх гараджанаў выстраіць у шыхты і адправіць у вёску, як гэта ўрад робіць з двумастамі тысячамі студэнтаў, на «бітву за ўраджай». А старшыні калгасаў і саўгасаў чарговы раз пастаўленыя ва ўмовы, калі ім трэба дзейнічаць па прынцыпе «жырафа вялікая – ёй лепш бачна»: выконвай загады зверху, якія б абсурдныя яны ні былі, – і застанешся цэлы. Здавалася б, гэта ўжо праходзілі.

Рэцэпт, прапанаваны Лукашэнкам для лячэння аграпрамысловага комплексу, надзвычай просты і – галоўнае – зразумелы «простым людзям» (толькі ці эфектыўны?): паляпшайце тое, што маем.

Як і ў папярэднія гады, А.Лукашэнка паабяцаў не падтрымліваць крэдытамі стратныя гаспадаркі. «Хопіць падтрымліваць гультаёў, кожны рубель будзе накіроўвацца толькі туды, дзе ён можа прынесці прыбытак», – сказаў Лукашэнка. Ён, відаць, забыўся, што з 2.500 калгасаў і саўгасаў Беларусі кожны другі – прадпрыемства стратнае. Каму ж тады рабіць фінансавыя ўліванні? І, галоўнае, дзе ўзяць на гэта сродкі, калі дзяржаўная казна пустая? Для кіраўніка дзяржавы і тут няма праблемаў, бо ён «папросіць» прамысловыя прадпрыемствы – і яны зробяць гэта без усялякага прымусу! – падзяліцца з вёскай усяго толькі адным працэнтам прыбытку ад рэалізаванай прадукцыі. А тое, што прамысловасць сама дыхае на ладан, нікога не цікавіць.

Вясенняя бяседа на сельскагаспадарчую тэму прайшла. А ўвосень будуць шукаць вінаватых «неўраджаю», у ролі якіх ізноў, відавочна, выступіць або засуха, або дождж. ■

ПАЛІТЫКА

## Президент-2 приземлится в Минске

*Окончание. Начало на стр.1*

Есть основания полагать, что именно эта тема была истинной причиной общения по телефону, которое состоялось 25 марта между главами двух союзных государств. Очевидно, что они говорили и о принятом 24 марта решении (за подписью главы правительства В.Путина) о возобновлении таможенных сборов на российско-белорусской границе. Можно предположить, что реакцией на эту новость из Москвы стал истерический вызов, выраженный в демонстративном задержании 25 марта в Минске журналистов российских СМИ. А белорусские «таможенники» так обиделись на российских коллег, что стали рекомендовать В.Путину, после его полетов на истребителе и плавания на подводной лодке, приехать в Беларусь через таможенные посты на большегрузном авто. Правда, рекомендации последовали на неофициальном уровне. Этакая суверенная фига в кармане. Надо полагать, во время предстоящего визита Путина в Минск упомянутые вопросы и будут обсуждаться.

Не исключено, что, будучи в Минске, Владимир Путин затронет и такую тему, как имидж нынешнего руководства союзной Беларуси на международной арене. Как подчеркивают источники в Москве, у России и так хватает проблем с международным сообществом. Последние решения Парламентской ассамблеи в Страсбурге тому подтверждение. В Минске эти решения по-простому назвали местью Запада за поражение в Югославии. Такие и некоторые другие заявления вряд ли могут восприниматься как стремление к созданию атмосферы доверия. Поэтому дополнительной головной боли из-за Беларуси в Кремле стараются избегать.

Как известно, в рамках союзных обязательств Россия и Беларусь договорились не только координировать, но и проводить общую внешнюю политику. В последнее время все чаще стали говорить о том, что при новом президенте Россия не будет рассматривать Германию и Францию как стратегических внешнеполитических партнеров. Сложившиеся с ними при Борисе Ельцине особые отношения оказались, считают некоторые политики в Москве, малорезультативными. Охладел Владимир Путин и к Китаю. О его обещаниях совершить свой первый зарубежный визит именно в эту страну больше никто не вспоминает. Отныне приоритетом у России считается Великобритания, которую Владимир Путин посетит сразу после своей инаугурации. А тем временем, союзная Беларусь пытается активничать в Движении неприсоединения, членство в котором нередко противоречит характеру ее военно-политических отношений с Россией. ■

НАЗІРАЛЬНІК

## БЕЛАРУСЬ-2000: Президентура и переговыборы – что же с нами происходит?

Александр ПОТУПА

**Формальной основой белорусского государственного кризиса является, конечно же, известная нелегитимность действующих органов власти. Исходное мероприятие — так называемый ноябрьский референдум 1996 года — было проведено с явными и грубыми процедурными нарушениями и во многом не соответствовало Конституции-94. Главный результат этого референдума — так называемая конституция-96 — «повисла» вместе с введенными на ее основе Национальным собранием, Советом министров, сильно модифицированными ролями Конституционного суда и особенно президента. Не говоря уж о том, что, скажем, нынешнее Национальное собрание представляет всего 42,3% избирательных округов, то есть меньшинство электората (порядка 3 миллионов человек).**



Но самый опасный итог референдума-96 — **высочайшая монополизация власти президентом, фактическое установление реальной диктатуры.** Ликвидирована «система сдержек и противовесов» в структуре отношений Президентуры со всеми остальными ветвями государственной власти, вообще говоря, — устранен какой-либо реалистический контрольно-корректировочный механизм, позволяющий всерьез проконтролировать и откорректировать в законодательном порядке действия президента.

Так или иначе, стратегическая цель Президентуры — провести осенью 2000 года выборы в Национальное собрание таким образом, чтобы международная общественность, а главное — правительства стран Евроатлантического Сообщества признали новый белорусский парламент вполне легитимным, а сами выборы — достаточно демократическими. И не просто ослабили давление на Беларусь перед предстоящими в 2001 году президентскими выборами, но как бы переключили свое позитивное внимание с оппозиции на президента. А тем самым фактически принудили часть оппозиции (так сказать, «конструктивную» часть) сблизиться с президентом, оставив небольшому кругу наиболее упорных малопривлекательную и долгосрочную маргинально-диссидентскую нишу. При этом президент намерен обеспечить себе сравнительно спокойный следующий срок (2001—2006, а, может, и много больший!), сохранив декоративный характер парламента и Конституционного суда и, разумеется, сугубо техническую роль правительства.

Понятно, что **любой беспартийный кандидат или целая партия, вступившие в выборный процесс, автоматически признают тот орган, куда выдвигаются, вместе со всей конституцией-96.** И всякие разговоры на тему «простой проверки чистоты выборов изнутри» — лишь нехитрая маскировка факта признания. Кстати, любая общественная организация, официально включающаяся в проверку, тоже демонстрирует признание и Национального собрания, и учредившей его конституции. И чем больше партий, профсоюзов и известных общественных организаций демократической ориентации втянется в этот процесс, тем выше вероятность, что Запад пришлет своих наблюдателей, то есть фактически признает легитимность самого процесса. Другой вопрос, что наблюдателям — и внутренним, и внешним — может не понравиться ряд процедурных моментов (учет бюллетеней, контроль подсчета голосов и т.п.), но это бывает и в странах с самыми легитимными парламентами.

С другой стороны, опыт двух референдумов и недавних выборов в органы местной власти показывает, что Президентура умеет хорошо подсчитывать голоса и получать нужные результаты с весьма приличной точностью. Это означает, что, даже наступив на горло собственной песне (хорал «О нелегитимности», исполняющийся 5,5 лет), оппозиция рискует вообще не попасть в парламент. Или, если власть окажется похитрей, попасть на уровне 5—6 мест, что даст повод той же власти громко радоваться разгулу отечественной демократии, всемерно подчеркивая, что любовь народа к демократам измеряется 5—6 процентами голосов или что-то в этом роде.

Однако все эти практически неизбежные неприятные последствия участия в выборах нужно сопоставлять с противоположным решением — категорическим неучастием. В «горячих веснах и осенях» (все менее горячих!) пробежит еще годик, еще пять лет. Часть лидеров оппозиции не дотянет до следующего сезона — кто из любви к стремительно взрослеющим внукам и элементарной заботы об остатках здоровья, кто, наоборот, в поисках более надежного куска хлеба для своих маленьких детей и из жалости к собственным еще молодым годам. Другие вынуждены будут заметно маргинализироваться и опереться на самых экстремистски настроенных сторонников, ибо выбора почти не будет. И разумных людей, отнюдь не проникнутых баррикадной идеологией, это не может не пугать.

Собственно, знаменитые переговоры под эгидой ОБСЕ и были предназначены для поиска какого-то более приличного решения, не связанного с крайними вариантами — безоговорочной сдачей властям либо уходу в сырое подполье. По сути, был избран вариант «оговорочной сдачи», хотя все это можно обозначить и более изящными терминами. Оппозиция уступила практически все, что могла. Сразу было ясно, что политический формат переговоров между сторонниками двух конституций, которые должны были бы идти на уровне президент — Верховный Совет 13-го созыва, никогда не состоится. **Для президента признание ВС-13 стороной политических переговоров равноценно признанию того, что в ноябре 1996 года он совершил-таки государственный переворот,** а в переговорах выступает просто в роли «мятежника с высоким силовым рейтингом» (что не так уж редко встречается в мировой практике).

Все свелось к своеобразным консультациям группы ОБСЕ, группы оппозиционных партий (включая особо известную своей оппозиционностью ЛДПБ!) с юридической группой помощника президента Михаила Сазонова по вопросу условий, при выполнении которых оппозиция готова участвовать в предстоящих выборах, а ОБСЕ — признать эти выборы. Господин Вик сотоварищи участвовал в мероприятии скорее как сторона, а вовсе не посредник, ибо в определенном смысле именно он был распорядителем важнейшего ресурса возможной сделки — **признания будущих выборов международным сообществом** (отнюдь не наша оппозиция и, тем более, не Президентура). Ресурс партий в этих консультациях — **возможное участие в выборах с признанием в этом случае Национального собрания (неизбежно вместе с конституцией-96 и референдумом-96).** Ресурс Президентуры — **возможность принять те скромные изменения условий проведения выборов, которые предложили оппозиционные партии.**

Изменения условий касались в основном доступа к государственным масс-медиа и некоторых поправок к Избирательному кодексу. Право нелегитимного Национального собрания принимать указанный кодекс, кажется, никто не оспаривал. То есть на все дискуссии о нелегитимности власти было наложено табу, и на эту главную уступку оппозиция — правда, под сильным давлением группы ОБСЕ — тоже пошла. ►

*Окончание на стр.4*

ВАНДРОЎКІ

## Зноў канцэрты Пашкевіча

Галіна КАЗІНЕЦ

**Праверaную на мінулых выбарах тэхналогію барацьбы за дэпутацкі мандат у глыбінцы зноў выкарыстоўвае на Палессі намеснік кіраўніка адміністрацыі Іван Пашкевіч. 7 красавіка Іван Іванавіч асабіста суправаджаў да Століна эстрадную спявачку Стэлу, народны гурт "Церніца" і яшчэ некалькіх артыстаў. На працягу трох дзён запар яны аб'ехалі 13 вёсак, дзе далі 14 канцэртаў. Акцыя падавалася як чарнобыльскі шлях «Дарога жыцця».**

Атрымоўваецца, што адзін з дaручэнцаў прэзідэнта выкарыстоўвае сваё службовае становішча для штучнага аўтарытэту ў глыбінцы. Але як не ўзгадаць, што ў 1996 годзе былі такія ж канцэрты. Праўда, тады малавядомаму кіраўніку беларускага агенцтва тэлерадыёкампаніі «Мір» не заўжды адчынялі дзверы вясковых клубаў ды выручалі знакамітыя «салаўі» Ядзя Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч. Зараз мясцовая ўлада ходзіць на дыбачках. Акрамя музычнага шоу, Пашкевіч распадзяўся ўнесці карэктывы ў тэрытарыяльнае планаванне вёскі Альшаны. Тамтэйшым месцічам абяцанае будаўніцтва амбулаторыі і школы. Каб было вяскоўцам да каго хадзіць на скаргі, у штат мясцовага сельвыканкама ўведзены пасады намесніка старшыні і землеўпарадчыка. Напярэдадні канцэртаў даяркам раздавалі духмянае французскае мыла з пасылак гуманітарнай дапамогі Чырвонага Крыжа. Вёскі Рубель, Лядзец, Вялікія Арлы, Хатомель, Туры, а таксама «цяплічная рэспубліка» Альшаны, дзе 1.640 двароў і больш як тры тысячы выбаршчыкаў, апрацоўваюцца з прыцэлам восеньскай выбарчай кампаніі. ■

# Яма для адукацыі

Надзея СВЯТЛІЧНАЯ

**Яшчэ 26 школаў будуць закрытыя ў раёнах Брэстчыны, а 20 — рэарганізаваныя. 770 настаўнікаў страцяць свае рабочыя месцы.**

«Дэмаграфічнай ямай» называюць спецыялісты сітуацыю, што паглыбляецца ў Прыбужжы з 1994 года. Ужо пры першым прэзідэнце лінія нараджальнасці і крывая смяротнасці сышліся ў адной кропцы, пасля чаго вобласць штогод пачала страчваць прыкладна адзін сельсавет. Ну а калі ведаць, што на асобных тэрыторыях натуральнага прыросту насельніцтва няма гадоў дваццаць, то зразумела, пра якую яму ў адукацыі давядзецца гаварыць найперш.



Абапал Белавежскай пушчы катастрафічна пашыраецца зона дэмаграфічнага бедства. За апошнія пяць гадоў насельніцтва Камянецкага раёна скарацілася на 1.800 чалавек. На суседняй ля пушчы Пружаншчыне колькасць працаздольных штогод змяншаецца на тысячу. У мінулым годзе тут нарадзілася 520 чалавек, а з жыцця пайшло 990. Якога-небудзь разумнага тлумачэння гэтай сумнай статыстыкі няма. Экалогію Белавежжа нельга параўноўваць з Чарнобылем. Прамысловых прадпрыемстваў, патэнцыяльных атручвальнікаў наваколля — мінімум. Аднак вёскі старэюць і паміраюць. Яшчэ ў 1998 годзе Камянецкі райвыканкам вымушаны быў «спісаць» 5 вёсак — тут не засталося ніводнага жыхара. У 1999 годзе налічвалася ўжо 30 паселішчаў, дзе жывых душ было да 10. І, напрыклад, у вёсцы Ганцы самым маладым лічыўся 75-гадовы дзед.

У вёсцы Блізная школа зачыненая. Пустуюць 40 дамоў. З 260 жыхароў большасць — пенсіянеры. Між тым у вёсцы ўчэпіста спрачаецца са старасцю старажытны парк памешчыка Мілачэўскага, якога ўзгадваюць як апошняга сапраўднага гаспадара. За 50 гадоў калектывізацыі саўгас «Ружанскі» ўсё роўна менш трымае жывёлы, чым было яе ў гэтых мясцінах паводле самага ранняга тут перапісу 1897 года.

Дрэнныя дэмаграфічныя паказчыкі на асобных тэрыторыях падаюцца катастрафічнымі пры першай спробе прагназаваць будучыню вясковых школаў. Так, колькасць дзяцей, якія нарадзіліся ў 1999 годзе, меншая адносна 1990 года на 6.030 чалавек (72,6% ад ранейшага паказчыка). Кантынгент дашкольнага і школьнага ўзросту знізіўся за гэты прамежак часу з 375.879 чалавек да 343.389 (мінус 32.490), у тым ліку ў сельскай мясцовасці — з 141.183 да 121.341 (мінус 19.842). З-за таго, што нараджальнасць падае, колькасць навучэнцаў у школах вобласці зменшыцца да 2004 года на 30.415 чалавек (на 12,6% да ўзроўню 1999 года). У падрыхтоўчых класах пустымі застануцца 5.572 месцы, у пачатковых – 23.384. Брэст пры такім раскладзе губляе 41% навучэнцаў падрыхтоўчых класаў, Брэсцкі раён - 36,6%, Пружанскі — 34,3%, Кобрынскі — 35,2%. У адукацыі давядзецца скарачаць класы-камплекты: з 12.223 у гэтым годзе да 10.667 у 2004 годзе. Гэты працэс абумовіць меншую патрэбу ў настаўніках пачатковых класаў да 2004 года на 770 чалавек, а выхавальнікаў групаў падоўжанага дня на 114 чалавек і настаўнікаў старэйшых класаў на 409 чалавек. 26 школаў (12 базавых, 14 пачатковых) давядзецца закрыць, а яшчэ 20 — рэарганізаваць, у тым ліку 8 сярэдніх — у базавыя, 12 базавых — у пачатковыя.

За гэтымі сухімі лічбамі — лёсы людзей. Школа і яе выхаванцы становяцца ахвярамі часу. Многім у глыбінцы сярэдняя адукацыя стала непатрэбная. У Кобрынскім раёне, напрыклад, перапіс 1999 года выявіў 2.262 чалавекі, якія не атрымалі пачатковую адукацыю, з іх 60, ва ўзросце ад 15 гадоў і старэй, наогул непісьменныя.

Пры новых крызісных з'явах улада не будзе ўтрымліваць школы, дзе ўсяго 15–20 вучняў і столькі ж абслугі. Узамен іх закрыцця прапануецца сабраць найбольш здольных у інтэрнаты гімназіяў і ліцэяў, а так званы «баласт» размеркаваць у класах суседніх школаў. Аднак гэты прэцэдэнт у Івацэвічах ужо перарос у гучны скандал. Пад інтэрнат ліцэя спрабуюць выкарыстаць будынак, дзе цяпер месціцца дзіцячы садок «Бярозка». Яго 100 выхаванцам прапануюць вольныя месцы ў іншых садках райцэнтра. Аднак бацькі супраць таго, каб іх дзеці знаходзіліся далёка ад дома. Заўпарцілiся і 32 работнікі гэтай дашкольнай установы, паколькі якіх-небудзь іншых перспектываў працаўладкавання ў Івацэвічах для іх няма.

Але працэс пайшоў. Апошнюю чвэрць гучаць дзіцячыя галасы ў 8 ліквідуемых школах. ■

НАЗІРАЛЬНІК

# БЕЛАРУСЬ-2000: Президентура и переговыборы – что же с нами происходит?

*Окончание. Начало на стр.3*



Фото Ул. ШЛАПАКА

В сущности, **Президентура снова навязала игру по своим правилам без всяких правил** – в функциональном отношении получилось нечто очень близкое к печальной памяти ночным посиделкам Лукашенко, Шарецкого и Тихини при, с позволения сказать, посредничестве Черномырдина, Селезнева и Строева в ноябре 1996 года. И была, по-моему, серьезно озадачена готовностью многократно битой оппозиции играть в том же духе, причем выставлять свой ресурс по явно демпинговой цене. По-моему, президент до последнего момента ожидал какого-то подвоха, джокера в рукаве. Но не дождался и просто отозвал скрупулезного Сазонова, который, кажется, уже стал считать, что ведет серьезные переговоры. И повисли в воздухе так и не подписанные предварительные соглашения.

А президент просто заявил: переговоров нет, не было и не будет, потому как всяких партий, общественных объединений и профсоюзов у меня много, а я у всех один и желаю со всеми с ними вести общий диалог без всяких там зарубежных посредников. То есть всем сторонам консультаций было ясно указано, что переговоры были лишь игрой их собственного воображения. Президент просто выяснял, готовы ли представители родной оппозиции и КНГ ОБСЕ отказаться от обсуждения легитимности референдума-96 и его последствий, готовы ли ограничиться косметическим ремонтом Избирательного кодекса и еще кое-какими мелкими уступками, чтобы поучаствовать в выборах (оппозиция) и признать их принципиальную легитимность (КНГ ОБСЕ). Выяснилось – готовы!

Некоторые второстепенные поправки, предложенные оппозиционными партиями и КНГ ОБСЕ, были внесены в кодекс уже при его принятии Национальным собранием. Более серьезные, связанные с переходом к мажоритарно-пропорциональной системе, вносить, конечно же, не хотелось – чтоб конституция-96 дожила без изменений хоть до очередных выборов. Вообще-то, не думаю, что заполнение, скажем, 25 % парламентских мест по партийным спискам было бы принципиальной проблемой для Президентуры. Во-первых, ни одна из партий могла просто не пройти, скажем, 5-процентный порог. Во-вторых. Можно было разыграть по отношению к оппозиции вполне садистский вариант – поддержать, скажем, надпороговое прохождение в парламент чикинских коммунистов, ЛДПБ и патриотов Баранкевича, завалив всех остальных.

Президент решил сделать проще – собрать так называемый общественно-политический диалог, где ввиду полного и окончательного расцвета плюрализма в РБ алгебраически сложатся компетентные мнения одного демократа и двух правильно мыслящих товарищей. То есть получится, что в кодексе есть, разумеется, спорные места, но к их анализу надо будет вернуться когда-нибудь после выборов.

С доступом в государственные СМИ даже помимо всяких полуподписанных договоренностей было сделано еще проще. Кое-какой доступ-то возник, но это не значит, что поменялись главные редакторы, ведущие и закулисные сценаристы. АТНщики в ходе нескольких недурно смонтированных эфиров и лично Павел Якубович в комментариях к записи «кофейных посиделок» с лидерами некоторых партий в «Советской Белоруссии» очень четко показали, как можно без труда вознoситься над любым собеседником, пытающимся за пару минут изложить что-то из своих программных установок. Получилась простейшая пиаровская демонстрация (эффект треугольника – хозяин, собака, пришелец): смотрите, люди добрые, я, простой журналист, с которым президент делает в прямом эфире что угодно, в свою очередь творю что хочу с любым оппозиционером, который чем-то там пытается вам голову морочить. Похоже, некоторые лидеры вложили всю энергию в прорыв к эфиру и полосам государственных газет, не озаботившись подготовкой к работе в особо сложных условиях.

Однако вопрос об участии или неучастии в парламентских выборах уже добрые полгода остается самым модным вопросом в оппозиционной среде. К сожалению, он не имеет простого ответа, основанного на очевидных исторических аналогиях или поверхностных наблюдениях за сегодняшней ситуацией. Строго говоря, ответ зависит от стратегии поведения в будущем. Если политическая оппозиция имеет время и запас для длительного (еще хотя бы 5–6 лет) существования в постепенно сжимающейся Красной Дыре, возможно, стоит задуматься о вхождении во власть на практически любых условиях. Тем более, обсуждать всерьез эти условия никто и не предлагает. Если имеются системные сценарии сравнительно быстрой трансформации страны (порядка одного года), требующие, разумеется, и соответствующей концентрации усилий, никаких игр с выборами в Национальное собрание вести не стоит. Надо представлять, что ясно сформулированный отказ от участия, поддержанный достаточно широкими кругами оппозиции, и непризнание выборов Евроатлантическим Сообществом означал бы полный и окончательный провал международной политики руководства Беларуси за все семилетие общего президентского срока.

А пока оппозиция расплачивается за отсутствие стратегии, боюсь даже, за своего рода непонимание необходимости иметь таковую. Расплачивается за время, необратимо потерянное в многообразных театральных действах, ставших едва ли не самоцелью. Расплачивается своей судьбой и, увы, судьбой народа, которым так хотелось поруководить.

## Вместо резюме

Весь фокус в том, что Лукашенко никогда не боролся за власть в том смысле, как это понимала старая и новая (оппозиционная и позиционная) номенклатура. Он просто шаг за шагом (иногда длинными прыжками) устранял все контрольно-корректировочные механизмы, способные оказать на него серьезное воздействие в рамках более или менее нормального правового поля. Такая тяжкая работа связана, конечно же, с восхождением по лестнице власти и удержанием самой высокой позиции на белорусском Олимпе. И с этой точки зрения, для него в равной степени неприемлема ни Евроатлантика с ее общечеловеческими ценностями, правами человека и требованиями вменяемости, предсказуемости и вообще приличного поведения, ни назойливая кремлевская византийщина – от братского елея до «мочить в сортире». Тем более, неприемлема собственная номенклатура или общественность, берущая на себя смелость что-то контролировать и корректировать в установленном законом порядке. И неприемлем чуждый и опасный закон вообще – как основание для контроля и корректировки. И любые согласования правил игры, в результате которых возникает вероятность что-то проиграть и понести какую-то реальную ответственность, тоже неприемлемы. Как, скажем, для Калигулы был неприемлем Юпитер, который в сумеречных видениях требовал у молодого императора какого-то разделения властей хотя бы только на Олимпе.

**Это уже диагноз.**

В заключение позволю себе воспроизвести одну мудрую притчу Андрея Кнышева, имеющую весьма близкое отношение к электоральной тематике.

**Голосование.**

*- Кто за? Кто против? Воздержался?.. Итак, большинством голосов за при одном Копернике против, вопрос о Земле мы решили. Переходим к следующему вопросу...* ■

КАЛАЖ

# Вярніце галовы!

**Новая Зеландыя заклікае музеі ўсяго свету вярнуць на радзіму татуіраваныя і засушаныя галовы карэнных жыхароў краіны. У ранейшыя часы вялікая колькасць галоваў, што з'яўляюцца цяпер нацыянальным набыткам, былі прададзеныя ў розныя краіны.**



Засушаныя галовы належалі прадстаўнікам племені маары, карэнным жыхарам Новай Зеландыі. Гэта невялікі народ – у свой час еўрапейскія каланісты зрабілі ўсё, каб абарыгенаў засталося як мага менш, — аднак ён дастаткова вядомы ва ўсім свеце дзякуючы сваім шматлікім вычварным майстэрствам. Напрыклад, маары лічаць сябе вынаходнікамі татуіроўкі. Вельмі шмат часу яны прысвячалі пакрыццю свайго цела мудрагелістымі малюнкамі. Іхнія татуіроўкі—гэта арнамент, які пакрываў тубыльца з галавы да ног.

Яшчэ некалькі стагоддзяў таму маары славіліся унікальным майстэрствам высушваць галовы мерцвякоў. На мясцовай мове такія «вырабы» называюцца «мока мокай». Звычайна новазеландцы-абарыгены захоўвалі «мока мокай» любімага чалавека, пакрыты татуіроўкамі, і ставілі яго на бачнае месца ў хаце — у якасці сувеніра. Калі на Новазеландскія выспы прыехалі еўрапейцы, яны ў першую чаргу зацікавіліся татуіраванымі галовамі. Самі маары з радасцю пачалі абменьваць фамільныя каштоўнасці на розныя еўрапейскія «цуды». Такім чынам, галовы маары апынуліся ў розных музеях свету. Дадатковай перавагай такіх экспанатаў стаў той факт, што «мока мокай» добра захоўваюцца практычна ў любых умовах. Самая буйная калекцыя новазеландскіх галоваў знаходзіцца ў Музеі натуральнай гісторыі ў Нью-Йорку. Яна ўтрымлівае ажно 35 «адзінак».

Нядаўна кампанія па рэпатрыяцыі галоваў, якую праводзіць цяпер Новая Зеландыя, дала пэўныя вынікі. Першым з усіх музеяў, хто адгукнуўся на просьбу новазеландскага ўрада аб вяртанні нацыянальнага набытку на гістарычную радзіму, быў Паўднёвааўстралійскі музей з горада Адэлаіда. Ён пагадзіўся адмовіцца ад часткі сваіх экспанатаў, і ў хуткім часе адна з буйных калекцыяў – чатыры засушаныя тубыльскія галавы – пераедзе з Аўстраліі ў Новую Зеландыю, таксама ў музей, дзе ўжо захоўваецца некалькі дзесяткаў галоваў. Урачыстая цырымонія па перадачы каштоўнасцяў адбудзецца 17 красавіка.

Як заявіў прадстаўнік «Адукацыйнай арганізацыі мока мокай» Дальваньюс Прайм, змаганне новазеландцаў за свае галовы толькі пачынаецца. У бліжэйшы час іх чакае, відаць, найбольш сур'ёзнае выпрабаванне – пераканаць амерыканцаў вярнуць «экспанаты». Д.Прайм спадзяецца, што гэта атрымаецца ўжо ў наступным годзе. ■

## Самая маленькая газета

Бразільская выдаўніца Далорэс Нунес Сшвінд выпусціла самую маленькую газету ў свеце, ажыццявіўшы такім чынам запаветную мару ўсёй сваёй сям'і. 16-старонкавая газета *Your Honour* мае фармат 2,5х3,5 см. Па словах самой выдаўніцы, яшчэ ў 1935 годзе яе бацька выдаў газету памерам 10х7 см. Як сцвярджае Далорэс, яна ўсё жыццё марыла пабіць гэты рэкорд.

Мініяцюрная газета будзе выходзіць у бразільскім гарадку Дывінаполіс. Першапачатковы наклад – 5 тысяч асобнікаў. Кошт гадавой падпіскі на яе складзе каля 6 доляраў ЗША. ■

КУЛЬТУРА

## Вольныя танцы: новая альтэрнатыва

Вольга АНЦЫПОВІЧ

19 красавіка ў канцэртнай зале «Мінск» адбудзецца прэзентацыя альбома «Вольныя танцы: Новая альтэрнатыва» з удзелам беларускіх гуртоў «NRM», «Нейро Дюбель», «Крама», «Палац», «Уліс», «Тройца», «Новае Неба», «Ляволы» і беластоцкага гурта «R.F.BRAHA». Квіткі можна набыць у прыватных распаўсюджвальнікаў і ў тэатральнай касе. Іх кошт – ад 1,5 да 3 тысяч беларускіх рублёў.

А маладзёжная арганізацыя Беларуская Музычная Альтэрнатыва (*БМAgroup*) рыхтуе выданне другой часткі зборніка «Вольныя танцы». Гэта стане працягам першага зборніка «Вольныя танцы: Слухай сваё!», які быў выдадзены ў мінулым годзе. Тады тысячны наклад дыску быў распаўсюджаны не толькі па Беларусі, але і трапіў у эфір радыёстанцыяў больш дваццаці краінаў свету. Асноўная мэта праекта – прапаганда сучаснай беларускай музыкі — фактычна была выкананая, а таму, на думку выдаўцоў, лагічна б было працягнуць традыцыю выдання. На другім дыску будуць сабраныя гурты, што выконваюць модную альтэрнатыўную музыку на беларускай мове, асноўныя напрамкі якой – індзі-рок і папулярная электронная музыка. Акрамя выдання тысячы кампакт-дыскаў, плануецца выпуск аднайменнай аўдыёкасеты і размяшчэнне ў *Internet* сайта «Вольныя танцы». ■

# Маладзёжныя панацэі для апазіцыі

Кірэй МАНУЙЛАЎ

**Паслянавагоднія шчыраванні лідэра Маладога Фронту Паўла Севярынца вакол Бога, нацыянальных рэчаў і супраціву рэжыму Лукашэнкі, здаецца, прарэзанансавалі ў апазіцыйных колах, і ў прыватнасці маладзёжных, недастаткова. Хоць то вельмі выразная прыкмета настрояў, стану і паводзінаў беларускай моладзі зараз і ейных дзеянняў на перспектыву, а не проста, што нейкі «Севярынец удаўся ў рэлігію».**

## Беларускі прарыў да Бога

Тым больш што, прынамсі, вонкава ўсё выглядае не як прыватная справа асобнага чалавека, а як цэлая новая канцэпцыя нацыянальнага выратавання ад Маладога Фронту. Бо ў адмысловым лісце-звароце да беларускай моладзі «Брату», надрукаваным у адным з нумароў газеты «Наша ніва» за гэты год, Севярынец падпісваецца менавіта як старшыня гэтай арганізацыі і нават падае патэнцыйным аднадумцам адрас штаб-кватэры для кантактаў. У прынцыпе, такія старанні прымяніць актуалізаваныя хрысціянскія традыцыі да палітычных варункаў зусім не дзіўныя. Апошнія колькі гадоў, паступова адмаўляючыся ад радыкальных формаў палітычнай барацьбы, Малады Фронт на чале з Севярынцам займаўся пераважна арганізацыяй канцэртаў, беларускамоўных дыскатэкаў, шоу «Беларушчына», конкурсаў ды-джэяў Адраджэння ды іншых падобных мерапрыемстваў. Справа, натуральна, важная, але засяродзіліся «маладафронтаўцы» на ёй ажно занадта. Затым было нават асуджэнне другой – «каменяпаднай» – часткі мінулавосеньскага Маршу Свабоды.

І вось цяпер дэклараванне фактычна прынцыпаў хрысціянскай дэмакратыі. Формула, як квінтэсенцыя сутнаснага духоўнага Адраджэння і нацыянальнай ідэі, прапануецца простая: беларуская форма – хрысціянскі змест. Севярынец даводзіць, што наша нацыянальная дэмакратыя канца стагоддзя, як і яго пачатку, засталася «толькі прыгожай легендай», а канцэпцыя нацыянальнай ідэі была зведзеная да «сімвалічнай беларусізацыі. Таму што беларусізацыя без Бога – гэта пустое».

Па вялікім рахунку, зварот Севярынца, які знаходзіцца ў нейкім прамежкавым статусе палітычнага рамантыка і функцыянера, да рэлігіі як да сродку каталізацыі палітычнага працэсу не выпадковы і тым больш не арыгінальны. У «Сучаснай культурнай антрапалогіі» Майкла Говарда чытаем: «Пры аслабленні альбо разбурэнні старога грамадскага ладу, у перыяды ўціску і сацыяльных хваляванняў нярэдка ўзнікаюць так званыя хіліястычныя (альбо адраджэнскія) рухі...ад расчаравання і адчаю», і «звычайна рэлігійная дзейнасць прыхільнікаў хіліястычнага руху звязаная са свецкай палітычнай дзейнасцю». А асноўным прынцыпам з'яўляюцца маральнае адраджэнне і выхаванне новага чалавека. У Севярынца: «Палітыкі няма – замест яе засталася масавая псіхалогія, папулярныя пачуцці і паводзіны: цынізм і нянавісць, подласць і страх, пыха і гнеў, жорсткасць і абыякавасць. На жаль, не толькі сярод правінцыйных савецкіх пенсіянераў і цёмных вяскоўцаў, не толькі ў калідорах улады, КДБ і РАУСах, але і нават там, дзе мы хацелі б бачыць прыстойнасць, чысціню і безумоўнае дабро, – у колах апазіцыі, у тусоўках актыўнай моладзі, у газетах, якім мы верылі безаглядна». А ў якасці дамінанты хіліясту па-беларуску мусіць быць усенароднае пакаянне, як у Нямеччыне 45-га і ЗША пасля В'етнамскай вайны, без якога «беларускі нацыянальны ўздым немагчымы». Наша нагода — трагедыя на Нямізе.





Севярынец агалошвае «беларускі прарыў да Бога», паколькі палітыка, мова, дэмакратыя, незалежнасць менавіта «наступствы духоўнага здароўя нацыі, а ніяк не яго перадумовы». Маўляў, людзі гадамі спрабуюць спасцігнуць гэтыя каштоўнасці, але ўсё адно не ператвараюцца ў свядомых грамадзянаў, таму што займаюцца гэтым праз пачуцці, розум, логіку, а не веру. А прыкладам і мэтай эвалюцыйнаму айчыннаму хіліясту, паводле лідэра «МФ», павінна стаць цывілізацыя Захаду, уладкаваная на хрысціянскіх прынцыпах, што гарантуе адкрытае грамадства, плюралізм, дэмакратыю, культуру ўзаемапавагі і дабрабыт.

Аднак, здаецца, нават пры пагалоўным сакральным уплыве даты 2000 гадоў ад Народзінаў Хрыстовых, нават пры значных мадэрнізацыях хрысціянскіх ідэалаў да палітычных праграмаў і беларускай сітуацыі наогул, глабальная ініцыятыва Севярынца, як яна ёсць, усё роўна выглядае нечым утапічным. Старшыня «МФ» марыць падобным чынам «аб'яднаць беларускі народ, усе 10 млн. чалавек, без падзелу на «свядомых» і «несвядомых», дэмакратаў і лукашыстаў, каталікоў і праваслаўных», і «тады мы, нарэшце, здолеем узвысіцца да нацыі пад бел-чырвона-белым сцягам».

Наўрад ці. Па-першае, як вяшчае ў роліку сацыяльнай рэкламы БТ, насельніцтва «знявечанае атэізмам», да таго ж абсалютна паверыць у Бога – відаць, не на мітынг апазіцыйны з'явіцца. Хрысціянска-дэмакратычнаму кансерватызму пакуль яшчэ дужа супрацьстаіць кансерватызм савецкай ментальнай спадчыны. Па-другое, Севярынец прапаведуе завочнае уніяцтва разам з нацыянальнымі каштоўнасцямі, але сумнеўна, што гэта, нават улічваючы быццам бы спрыяльную для падобных справаў беларускую талерантнасць, пройдзе. Бо вядома, што найбольш распаўсюджанае ў нас праваслаўе і ў крыху меншай ступені каталіцтва далёка не нацыянальныя і не патрыятычныя. А без непасрэднай падтрымкі царквы, што стаіць у насельніцтва на першым месцы па даверы, не абысціся. Значыць, варыянты накшталт ісламскага сацыялізму альбо каталіцкай тэалогіі вызвалення нам, на жаль, не пагражаюць. Як, напрыклад, у Польшчы, дзе каталіцкая царква адыграла немалую ролю ў нацыянальным і антыкамуністычным руху. Відаць, толькі праз некалькі дзесяцігоддзяў, калі гэтыя два адмоўныя фактары трохі знівеліруюцца і калі палітыку ў краіне будзе рабіць пакаленне «МФ», у пакуль гіпатэтычнай хрысціянска-дэмакратычнай партыі будзе шанец на больш-менш масавую народную падтрымку.

## Радыкалізм як рэсурс апазіцыі

А зараз рэлігійна-палітычныя пасажы Севярынца – гэта проста выключная праекцыя настрояў маладых беларусаў, што абарачаюцца ў палітыцы, на дадзены момант. А гэта, калі агулам, вялікі песімізм ад тых палітычных варункаў, што адбываюцца ў краіне, у тым ліку ад прафанацыі і непаўнавартасці апазіцыйнага руху. Ад таго, што супрацьстаянне дыктатуры, прарасійскай сатэлітнасці і здэнацыяналізаванасці застаецца з большага безвыніковым. А моладзі, па ўзроставай сутнасці настроенай рэвалюцыйна і па-максімалісцку, хочацца ж, як той казаў, тут і зараз. Таму Севярынец, як яму здаецца, вынайшаў панацэю – праз катарсіс пазбегнуць «новых удараў ілбом аб сценку – з нянавісцю і помслівай злосцю на Лукашэнку, міліцыю, саўкоў, калегаў-дэмакратаў» і духоўнай хрысціянскай экспансіяй на Расію паспрыяць тамтэйшай бяспечнай дэмакратыі — і тым самым захаваць Беларусь.

Але за гэтым расчараваннем моладзі ў айчынных палітычных працэсах можа надарыцца другая крайнасць – выбух радыкальных дзеянняў. Прычым, узбухторвальныя, правакуючыя на тое перадумовы як быццам бы ёсць – міліцэйскія дубінкі і бронетранспарцёры ў Мінску, РНАшныя ўлёткі...і тая ж «саплівасць» Маладога Фронту і іншых маладзёжных арганізацыяў. Ужо сёння патрыятычныя аб'яднанні кшталту «Краю» выглядаюць гатовымі не толькі да вывешвання сцягоў. Гэта па ўсім не нейкая міфічная Беларуская Вызвольная Армія ці які палітычна-перформансны «Правы рэванш» Славаміра Адамовіча.

Каб пазбавіцца дыктатуры, бывае дастаткова і проста моцны дух. Аднак цалкам тое, што гатоўнасць будзе запатрабаваная рэчаіснасцю, не выключаецца. Не выключаецца, напрыклад, мажлівым з'яўленнем стотысячнага натоўпу падчас чарговай апазіцыйнай акцыі альбо бразгатам акупацыйных танкаў па сталіцы. Альбо хоць бы неабходнасцю бараніць ад АМАПа жанчын і старых.

Разам з тым існаванне радыкальных нацыянал-патрыятычных плыняў у айчыннай палітычнай сістэме дадасць папулярнасці правым і правацэнтрысцкім партыям цывільнага, парламенцкага тыпу. У абывацельскім уяўленні яны папросту перастануць адмоўна ўспрымацца як крайне правыя і экстрэмісцкія.

Карацей, нацыянал-радыкалы – натуральны і неабходны рэсурс крызісуючай апазіцыі. Тым больш што ёсць дастатковая колькасць людзей, незадаволеных рэжымам Лукашэнкі, ды і самі ўлады настолькі каланіяльныя і таталітарныя, а з 20 ліпеня 1999 года да таго ж і незаконныя, што маральна і гістарычна апраўдваецца радыкальны супраціў ім. ■

Галоўны рэдактар Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка»
(г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1763 Нумар падпісаны ў друк 10/04/2000 (15:00) Наклад – 7.000